# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1969
Травень-
Чэрвень

Год XVII
№ 3 (114)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**

**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**

**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

**ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:**

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

**УВАГА:** Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVII** **May—June** **№ 3 (114)**

**1969**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVII ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ № 3 (114)

# Хрысьціянская місія

У Рыме нядаўна адбыўся Міжнародны Зьезд Тэалёгаў (Багасловаў): яны разважалі справу місіяў між няхрысьціянамі. Канцавы дакумант датычыць вартасьці місіяў і ролі місыйнае працы ў сьвеце. І сапраўды шмат хто пытае, ці ў цяперашнім часе яшчэ патрэбна наварочваць няхрысьціянаў? І ці ня лепш было-б пакінуць іх у іхняй веры, абы яны толькі жылі пасвойму і палюдзку?..

Багасловы пастараліся адказаць на гэтыя пытаньні і дайшлі да вываду пасьля гарачай дыскусіі, што яшчэ місіі вельмі патрэбныя і неабходныя для грэшнага сьвету. Бог Айцец паслаў свайго Сына, які стаў Збаўцам сьвету: Хрыстос ёсьць адзіная «праўда, дарога і жыцьцё». Дык толькі місіі даюць пазнаньне Хрыста і ягонае навукі; місіі прывучаюць людзей да жыцьця сапраўды людзкога ў справах прыродных і звыш прыродных.

Няма спрэчкі, што і няхрысьціянскія народы маюць у сваіх верах сапраўдныя вартасьці, якія вельмі добра прыводзяць чалавека, каб ён лягчэй паверыў у Эвангельле. Аднак толькі місія можа навучыць людзей таго, што трэба ім ведаць аб Богу і чалавеку. Місія найлягчэй кіруе людзей да еднасьці і супакою, і місія паказвае галоўную мэту людзкога жыцьця.

*

У практычнай дзейнасьці місіянер павінен лічыцца з вартасьцямі іншых рэлігіяў, стараючыся навязаць карысны дыялёг. А гэта вымагае, каб місіянэр належна зжыўся з культурай тых народаў, сярод каторых працуе, каб стараўся пазнаць жыцьцё тых людзей, іх веру і абычаі.

Вучоныя разважалі яшэ ў часе зьезду адносіны між эвангелізацыяй і прагрэсам навукі. Зважаючы на тое, што прагрэс абыймае цэлы сьвет і часта становіцца справай нацыянальнай, дык багасловы перасьцерагаюць, каб і эвангелізацыя не стала місыйнай тэхнікай, шаблёнам працы, катахізму, вывучэньня напамяць малітваў і формулаў веры, асабліва ў незразумелай мове. Бо праца місіянэра — гэта ёсьць Божае Слова і сакраманты паводле натуры людзей, краёў і народаў — паводле іхняе здольнасьці і патрэбаў.

Праца Царквы ў галіне прагрэсу мусіць мець выдатна выхаваўчы характар — на ажыўленьне грамадзтва духам ахвярнай любові — пры помачы харытатыўных установаў.

*Я. Савіцкі*

# 3-яя вайна — і — канец сьвету

Манах а. Раман у сваіх неспакойных пошуках, як разрашыць загадку вайны і канца сьвету, надумаў зьвярнуцца да якога паважнага тэалёга-багаслова. Якраз маніўся наведаць добрага прыяцеля, а. Мадэста, які ў апошнім часе зьлёг у пасьцель у зацяжной хваробе, якая ўсё-ж пазваляла яму прыймаць гасьцей і гаманіць зь імі.

І вось, праехаўшы падземкай добрай паўгадзіны, а пасьля аўтабусам яшчэ гэтулькі і прайшоўшы пешкі мінут дзесятак, а. Раман знайшоў хворага сьвятара на далёкім прадмесьці, у асабняку.

а. Раман: — Э-э, што-ж ты залёг, як стары дзед? Як-жа маешся?

а. Мадэст: — Стары — не стары, а дохтар параіў адляжаць цэлы месяц пасьля апэрацыі пераломy нагі, значыць, куруюся і дзякую, што прыйшоў мяне наведаць!

а. Раман. Выбач, што хачу адразу перайсьці да справы, якая мяне вельмі інтрыгуе і парадзіцца з табою.

а. Мадэст: — Ну-ну, а што-ж такое?

а. Раман: — Ці ты чытаў мае разважаньні...

а. Мадэст (перарываючы): — Ах, ты пэўна наконт «канца сьвету»? Ну, як-жа? чытаў! Дый, лежачы тут, стараўся дагадацца, куды ты з гэтым даедзеш?.. Значыць, я рады, што магу з табой паспрачацца. Але скажы мне шчыра, ці ты сур'ёзна думаеш аб канцы сьвету, ці толькі інтрыгуеш сваіх чытачоў?

а. Раман: — Ах, што ты гамоніш? Якія тут могуць быць жарты, калі над галавой чалавецтва вісяць атамныя бомбы, што могуць у самы кароткі час зьнішчыць усё жыцьцё на нашай плянэце? — Дык я прыйшоў шукаць у цябе добрай рады, як у філязофа і моцнага багаслова.

а. Мадэст: — Кажаш — «добрай рады» ? .. Калі так, дык слухай! Памойму, твае думкі нерэальныя, бо тут, як кажуць — «страхі на ляхі». І пачнём ад малога:

а) Няма страху нам з табой, бо мы і так даходзім да парогу жыцьця, дык чаго-ж нам баяцца? Значыць, разам з нашай сьмерцяй наступіць нам «канец сьвету».

в) А мяне нават бярэ радасьць і цікавасьць, як там, на другім сьвеце, уладжана жыцьцё вечнае? І што там дзеіцца? — Калі Бог ёсьць, як мы верым, вечны і ўсёмагутны, дык меў даволі магчымасьці тварыць і далей творыць сусьвет — сонцы, зоркі, плянэты і сатэлітаў; а пэўна шмат дзе на іх здараліся разумныя істоты-людзі. — Дык што нам бедаваць па гэтай нашай крошцы — Зямлі, калі-бы яна нават і скончылася?

а. Раман: — Але я не маю ніякага асабістага страху!

а. Мадэст: — Я ўжо ведаю, што ты хочаш сказаць! Дык слухай далей: я ў сваей працяжнай хваробе шмат перадумаў, бо мая душа зьмяшчаецца ў галаве — у розуме і ў сэрцы; а твая душачка, як мне здаецца, часта ўцякае ў пяты, дык ты і напісаў гэтулькі цудаў аб канцы сьвету ...

а. Раман: — Няхай сабе і так! Але. што ты скажаш аб маім дыялёгу з вучоным фізыкам?

а. Мадэст: — Скажу, што вы абодвы падпалі пад дзіўны псыхоз і адзін другога так настрашылі, што абодва ня ведалі, куды падзецца!

— І далей скажу: вы мне напамінаеце канец І-га тысячагодзьдзя, калі ўсё чалавецтва падпала пад псыхоз канца сьвету. Тады таксама людзі ў забабонах шукалі знакаў на небе і на зямлі, якія пагражалі зьнішчэньнем усяго чалавецтва. Аднак-жа, як бачым, сьвет прастаяў новую тысячу гадоў.

— І таксама шмат было страху, калі прыбліжалася да нашае плянэты камэта Галлея: тады баяліся, што ўсе людзі патруцяцца ад хваста тае камэты. Аднак вось нічога не сталася, хоць фактычна зямля праляцела праз той хвост, нічога не адчуваючы. Ды тут дзеюць і дзівосы адвэнтыстаў, якія на кожныя дваццаць пяць гадоў прaракавалі канец сьвету.

— З гэтага можам быць спакойныя, што і цяпер пагроза атамнага аружжа прамінецца бясьследна.

а. Раман: — Дай-то, Божа! Толькі-ж, дарагі Ойча, зусім іншая справа насьпела цяпер: тады людзі баяліся свайго ценю, а цяпер не баяцца сапраўднае небасьпекі і саліднай пагрозы. Вы самі добра ведаеце, што навука дайшла да поўнае магчымасьці зьнішчыць нашую плянэту, ці — лепш сказаць — жыцьцё на ўсей зямлі.

— Тады толькі забабонныя адзінкі пужалі цёмны народ, а цяпер асьцерагаюць нас найбольшыя вучоныя, што пагроза ёсьць самай абаснованай. І не адзін раз ужо Рымскі Папа Павал VI-ы напамінаў, што ня хочам думаць аб магчымасьці ўпадку цывілізацыі на ўсім сьвеце.

— Дык як вы можаце гаманіць, што я ўпадаю ў пусты страх?

а. Мадэст: — Ах, так? Бачу я і чую, што ты падбіраешся пад самае маё балючае сэрца, каб яго ўкалоць сваімі аргумантамі, як вострaю іголкай ...

— Ну, добра! давай пагамонім глыбей: запусьцім «сеці з правага боку» і зловім «залатую рыбку»!

— Калі сапраўды абодвы бакі — Усход і Захад — натварылі гэтулькі атамнай зброі, што могуць загубіць ворага, а прытым і сябе і ўвесь сьвет, дык ці-ж яны будуць такімі вар'ятамі, што адважацца загубіць другіх і самых сябе ? ! — Па мойму (а гэтак думаюць усе трэзвыя людзі) гэтая зброя служыць толькі на страх праціўніку.

а. Раман: — А вось у гэтым і ўся мудрасьць і ўся дурнота — гэты «страх».

а. Мадэст: — А я скажу, што ў гэтым — мудрасьць!

а. Раман: — А я скажу, што ў гэтым — дурнота! І выясьню ў параўнаньні.

а. Мадэст: — А ну, каліласка, гавары і я пільна слухаю!

а. Раман: — Падчас ІІ-ой Сусьветнай вайны, калі ішло заўзятае змаганьне ў Афрыцы, спаткаліся — адна на адну — дзьве машынысамалёты, нямецкая і ангельская — над пустыняй Сахарай; а ў той і другой было па два ахвіцэры: яны так трапна абстралялі адны другіх, што абодвы самалёты былі пашкоджаны і ўсе чацьвёра людзей моцна параненыя. Яшчэ, праўда змаглі апусьціцца на зямлю, але абедзьве машыны ляглі ў пясок якія трыста мэтраў ад сябе — так што маглі сябе бачыць ... І вось тут разыгралася гібельная трагедыя: усе чацьвёра патрабавалі зара мэдычнай помачы, бо не маглі вылезьці з папсаваных машынаў дый баяліся ўзаемна адны другіх. —

— А прытым узаемная заўзятасьць была такая жорсткая, што астаткам сілы патрапілі прымасьціцца ў машынах і пачалі, як мага, абстрэліваць адны другіх, пакуль — яшчэ

больш параненыя — паслабелі зусім і пачалі канаць!..

— Дык вось вам абраз цяперашняга сьвету: Усход і Захад шыкуюцца напасьці адзін на другога. У іх магазыны перапоўнены атамнымі вадароднымі, кабальтавымі і іншымі бомбамі; а вучоныя матэматыкі-фізыкі ўсё больш і горш узмацняюць ракеты і атамную зброю, — дый палітыкі, дыпляматы і ўрадавыя верхаводы ня ўмеюць (ці ня хочуць?) дагаварыцца... — А ўся рэшта народаў сьвету — вучоных і простых, багатых і бедных, малых і старых — уся гэтая рэшта сталася нямым абсэрватарам і чакае на сваю страшэнную згубу, як бараны на зарэз!..

а. Мадэст: — Ой, ліхачка! Значыць, мы з табой, як самыя старыя бараны, павінны быць зарэзаны першыя. Гм, але сьмех на бок! Аднак-жа кажуць: «Бог не папусьціць — свіньня ня зьесьць!»

а. Раман: — Ну, гэта, што ты кажаш, ёсьць чысты фаталізм!

а. Мадэст: — Не фаталізм, але моцная вера і надзея ў Бога, бо канец сьвету Бог трымае ў сваіх руках і не дапусьціць, каб тыраны зруйнавалі Божы сьвет.

а. Раман: — Але-ж Бог дапусьціў, што Гітлер і Сталін — кожны сваім манерам — ужо рабілі канец сьвету: Гітлер выгубіў мільёны жыдоў, беларусаў, украінцаў, расейцаў і інш., а нават і сваіх немцаў — недалужных і слабых; а выказваў у праектах, што сьвет павінен здабыць нямецкі народ — «чыстая і моцная раса», а ўсе іншыя пойдуць на шмэльц...

— А Сталін таксама вынішчаў слабейшых, нават і сваіх камуністаў, каб запанавала партыя і то па свойму «ачышчалі сьвет» ад шкодных людзей: Сам Бог ведае, да чаго яны дайшлі-б? Нават немагчыма падлічыць, хто з іх быў большым людабойцам. Абодвы марылі сьвет голадам, тэрорам, працай і няволяй: такой тыраніі сьвет дагэтуль ня ведаў!

а. Мадэст: — Але-ж бачыш, што загінулі ганебна абодвы і ня зьдзейсьнілі поўнага людабойства. А тымчасам чалавецтва размнажаецца яшчэ хутчэй, як перад вайною.

а. Раман: — Яны не даканалі людабойства, але яно трывае і паглыбляецца, хоць у іншай форме, больш спакойнай і прыкрытай.

а. Мадэст: — О-о-о! Што ты пад гэтым разумееш?

а. Раман: — Разумею вось што:

— Навука і вучоныя, якія ў сваім часе падпаліся тыранам-дыктатарам Гітлеру і Сталіну, цяпер падпалі ў няволю тыранам атэа-камуны ў Кітаі і ў Савецкім Саюзе: на гэта яны кладуць — (Мао-Цэ-Дун і Брэжнеў) — самыя большыя сродкі эканоміі, працы і навукі. Яны маюць у сваіх руках больш мільярда людзей, маюць нязьмерныя матар'яльныя сродкі з багацьця зямлі і прыроды ў Эўропе і Азіі, а людзкі патэнцыял перавышае магчымасьці Сталіна і Гітлера ў многа разоў. Пры тым яны ўладаюць атамнай энэргіяй, чаго ня меў тады ні Гітлер, ні Сталін.

— І абодвы тыраны кіруюць усю навуку і багацьце і сілу, — значыць, усю мудрасьць і энэргію, на згубу чалавецтва, дый абодвы — ворагі Бога і праўды... Чаго-ж тады мае бедны сьвет ад іх спадзявацца?!

— А гэтыя тыраны ня лічацца ані з людзкой годнасьцяй, ані з патрэбамі людзей: чалавек для іх — машына, якой даюць як найменш, а вымагаюць як найбольш — выціскаюць апошнюю сілу. Іхняя пыха, самалюбства і прагнасьць проста іх асьляпляе, бо нават чыстае матар'яльнае вырахаваньне прымушае даваць машыне неабходныя сродкі, каб магла трываць і працаваць прадукцыйна... Падобна, як разумны гаспадар не шкадуе каню спажывы, каб мог працаваць нармальна.

— Да чаго давядуць гэтыя два тыраны наш сьвет, нельга сказаць. Ужо пасьпелі сапсаваць эканоміку сьвету і агромныя краі церпяць бязупынны голад.

а. Мадэст: — Аднак я баюся, каб ты, абвіняючы атэа-камуну, не разграшыў капіталізму, бо і ён вінаваты перад няшчасным сьветам.

а. Раман: — Так, справядліва кажаш, бо нажыва-бізнэс, які апанаваў багачоў, таксама нясе адказнасьць за сусьветнае гора, за голад і галечу. На няшчасьце, бізнэс багачоў хоча запрагчы рэлігію сабе на службу, а фактычна нажыва асьляпляе людзей яшчэ горш, чым атэізм. Недарма Хрыстос сварыўся: «Гора вам, багачы!» І самі яны ня вераць і іншых — бедных — адрываюць ад Бога. Пракляты чорт лучыць атэізм у адно з бізнэсам, і багацьце зь бядою: На Усходзе пануе дыктатура тэрору і прымусу, а на Захадзе — дыктатура багацьця і крыўды.

— Захад мусіць бараніцца і зброіцца, каб не паддацца камуне: Захад у тэорыі прызнае Бога і Царкву, але ў практыцы багачы руйнуюць рэлігію і маральнасьць сваім лібэралізмам і духам нажывы; а на Усходзе праводзіцца маральнасьць атэістычная, якая бывае лепшай ад захадняй, аднак прымус псуе ўсялякія карысныя падзеі ў камуне.

— Ці-ж табе ня ведама, што ў трох з лішкам мільярдах людзей на сьвеце палавіна недаядае? Людзі працуюць і зарабляюць мала і ледзь могуць пракарміцца! А другую палавіну зноў дзелім папалам: адна частка, (значыць, чвэрць ўсяго чалавецтва) есьць даволі, а нават шмат з іх аб'ядаецца. А другая частка — цвэрць чалавецтва — церпіць поўны голад — аж паміраюць з голаду! Прытым найбольшы голад пануе ў Індыі, ў Кітаі і ў Паўдзённай Амэрыцы.

а. Мадэст: — Гэта-ж ясна, каб скасаваць перагонкі ў зброеньні і ў палётах на месяц (хто скарэй туды даляціць?), дык хапіла-б сродкаў пракарміць увесь галодны сьвет.

а. Раман: — Я-ж гэта і кажу, і аб гэтым пішу і дыспутую, але мяне ня слухаюць, а нават яшчэ і высьмейваюць...

а. Мадэст: Ну-ну-ну, татачка, я больш ня буду!

а. Раман: — Дый тут ня йдзе ні пра мяне, ні пра вас, але пра цэлы сьвет. Значыць, трэба навуку накіраваць на разумную і карысную працу дзеля парадку і ратунку сьвету, а не на зьнішчэньне яго! Каб ратаваць сьвет «ад паветра, голаду, агню і вайны», трэба найпільней памірыць жыдоў з арабамі, пагадзіць Кітай з усім сьветам і Ўсход з Захадам.

— І трэба ратаваць сьвет, даючы людзям і народам свабоду, а не дыктатуру і ні нажывубізнэс. Бо дайшло цяпер да таго, што сьвет шукае ратунку ў забойстве ненароджаных дзяцей — (у аборце), або ў труччаньні жанчын пігулкамі, каб асьцерагчыся дзяцей — аж паўстае сьвет супраць Рымскага Папы, што ня хоча «багаславіць» пігулкі, але асудзіў яе.

а. Мадэст: — Так, сапраўды, пігулкі калечаць жанчынаў!

а. Раман: — А дыктатура калечыць народы і вялікія часткі сьвету. — Паслухайце словы сьвятара-немца з часаў Гітлера:

«Цяпер мы ўвайшлі (а так мала хто гэта разумее!) ў пэрыяд гарэзіі, якая датычыць самога чалавека, як Божага дзіцяці і як істоты створанай на вобраз і Божае падабенства.

«Менавіта — на мейсца чалавека створанага як індывідуум — з вольнай воляй і розумам, якога Бог абдараваў талентамі і дарамі і збагаціў ласкамі сваімі, — цяперашнія кірункі (фашызм і камунізм) хочуць стварыць чалавека масы-тлуму; чалавека калектыву, чалавека — бяздушнае колца ў арганізьме ці то дзяржавы, ці партыі, ці агулам арганізацыі; чалавека, якому нельга самому думаць, нельга самому вырашаць, бо да яго належыць адно: выконваць тое, што за яго выдумае, запляную, пастановіць і загадае воля аднаго».

«Такія гарэзіі закрадаюцца і ў кляштары...».

— Вось характар дыктатуры! І людзі ахвотна пайшлі на гэта, бо лянуюцца думаць, разважаць, радзіцца з іншымі і браць адказнасьць у важных справах.

— І ў гэтым можна зразумець той абрыдлы псыхоз у зьняволеных людзей, калі ішлі і беглі на сьмерць, называючы Гітлера «геніям», а Сталіна «ясным сонейкам і айцом народаў».

— Калі-бы сьвет прыняў праграму Каталіцкае Царквы аб згодзе і ўтаймаваньні атамнага аружжа, дык гэта прычыніла-б агульнае ўспакаеньне нэрваў, арганізацыю сусьветнага ўраду і згоды дый памыснай бараць-бы з голадам.

а. Мадэст: — Э-гэ-гэ! Дык ты, як я бачу, а нават і спадзяюся, закладаеш вялізарную паправу — рэпарацыю папсаванага сьвету...

а. Раман: — А як-жа інача можа быць?! То-ж Сам Хрыстос прыйшоў на грэшны сьвет і клікаў народ да папраўы: «Пакуту чыніце! Калі ня будзеце пакутаваць, усе разам загініце». А што значыць Хрсытовае слова «разам»?

а. Мадэст: — «Разам» — значыць — гуртам, грамадою, супольна.

а. Раман: — А ці не азначае гэта — «загініце разам з усім сьветам»?

а. Мадэст: — Божачка, гэта-ж немагчыма!

а. Раман: — А якраз аб такой загубе прадказвала Найсьвяцейшая Дзева Марыя, калі плакала ў зьяве ў Ля Салет, калі асьцерагала сьвет у Люрд, і калі ў Фатіме прадказвала рэвалюцыю ў Расеі, як Божую кару дый асьцерагала перад новай, далёка горшай вайной, калі ня будзе на сьвеце навароту да Бога і шчырае пакуты...

а. Мадэст: — Ну, браток! Мушу прызнацца, што ты стукнуў у мяне як абухом па галаве, бо я дасюль браў усю справу занадта павярхоўна і лёгкамысна; а ты дабраўся ня толькі да маей скуры, але ў самую глыбіню сэрца. Дык будзем радзіцца супольна і паважна. —

— Дык, як ты ўважаеш, належыць бараніцца нам самым і бараніць грэшны сьвет? Што ты манішся далей пісаць і хто цябе паслухае?.. — Праўда, паслухала Нініва заклік і пагрозу прарока Іоны, навярнулася да Бога і пачала вострую пакуту, а Бог адмяніў назначаную кару. — Але-ж гэта адзіночны выпадак у гісторыі. А наагул прарокаў мучылі і забівалі, калі прадказвалі няпрыемныя пагрозы; а Хрыста, Божага Сына, ганебна ўкрыжавалі, калі прадказаў руіну Еразолімы. — А Хрыстос так ясна асьцерагаў: «Прыдуць дні, калі з таго, што вы тут бачыце, не астанецца камень на камені: усё будзе разбурана»... «палягуць ад вострага мяча, і павядуць іх у палон да ўсіх народаў, і Ерусалім будуць таптаць пагане... Запраўды кажу вам: ня пройдзе род гэты, як усё гэнае збудзецца». (Лука 21 — 6, 24, 32).

— І яшчэ жылі тыя, што чулі Хрыстовае прароцтва, як пасьля 37-мі гадоў усё споўнілася...

а. Раман: — Значыць, і ты ўжо сам прызнаеш, што Божая кара наступае аўтаматычна, калі няма пакуты і папраўы. А ці-ж мы бачым якую паправу на цяперашнім грэшным сьвеце?

а. Мадэст: — Ах, што гаварыць? Бадай, яшчэ горш сьвет псуецца, узяць хоць бы справу абрэзаньня жаночых спадніцаў — аж да са-

мага «міні-міні»! І ўжо ня лічуць за грэх забойства ненароджаных дзяцей; а ў Англіі разважаюць справу «эўтаназіі», значыць, каб забіваць старых і недалужных людзей. А дактары — замест лекарскай прафэсіі — маюць займацца рэмяслом людабойцаў, галаварэзаў — паводле рацэпту вылюдка-Гітлера. — Гэта ня дзіва, што знайшлася погань, якая такі праект унесла ў парлямант; але бярэ нас жудасьць, што ўся партыя лейбарыстаў схіляецца ў бок маральнага заняпаду.

— Дык што ты думаеш, як прыступім да рашучае папраўы ўсяго сьвету?

а. Раман: — У мяне ёсьць абдуманы плян, які я ўсьцяж папраўляю і дапаўняю ў сваіх думках і малітвах; а прытым раджуся ў паважных людзей — так дайшоў і да цябе, як прыяцеля, філязофа і багаслова.

а. Мадэст: — Вельмі дзякую і буду рады табе памагаць: нават можаш ад гэтае гадзіны ўважаць за супрацоўніка ў сваей глыбокай ідэі.

а. Раман: — І я дзякую і цешуся, што знайшоў у цябе падтрымку супольнае дзейнасьці, бо ўжо больш 5-ці гадоў я пратоптываў сьцежку ў цемры — адзінокі і самотны: ня мог дасюль нікога пераканаць і ўцягнуць у супалку.

— Тымчасам аднак перарвём размову і адложым дыялёг яшчэ на нейкі час! А тымчасам памолімся, каб Бог багаславіў нас і нашыя пляны і надзеі — паводле свайго вялікага міласэрдзя. Ня будзем забываць прасіць помачы ў Сьвятой Дзевы Марыі, якую Папа Бэнэдыкт XV ўшанаваў тытулам «Княгіні Супакою».

На тым і разьвіталіся. Манах Раман быў крыху зьбянтэжаны, што яшчэ ня мог практычна падштурхнуць сваіх праектаў і ўсё далей мела спачываць у намерах і тэорыі. Аднак цешыўся, што змог пераканаць такога паважнага вучонага філязофа, як дарагі а. Мадэст.

*а. Я. Верны*

# Павал VI-ы аб прызваньні да сьвятарства

У II-ую нядзелю па Вялікадні — (нядз. «Добрага Пастыра»), 20. IV. 1969, Каталіцкая Царква спэцыяльна малілася пра сьвятарскія і законныя прызнаньні. Павал VI-ты выдаў пасланьне да сьвецкіх і духоўных.

«Справа прызваньняў ёсьць аднэй з найважнейшых праблемаў... Праблемай ёсьць, як атрымаць душы, шырока адчыненыя, якія ў законным жыцьці даюць выдатны доказ, што сьвет ня можа стацца лепшым, калі не мае духа... убоства, чыстасьці і паслушэнства.

«Праблемай ёсьць, знайсьці маладых людзей, якія аддаюцца Госпаду Ісусу Хрысту з цэлай сілай сваей маладой, несапсутай душы. Яны маюць стацца слугамі Хрыста, адміністратарамі Божых Тайнаў і сапраўднымі пастырамі душаў, ідучы за прыкладам Ісуса Хрыста, Вучыцеля, Сьвятара і Пастыра. — Гэта ёсьць заданьне ўсёй хрысьціянскай супольнасьці — павялічыць лік сьвятарскіх прызваньняў, каб усе хрысьціяне былі павучаныя ў праўдах веры і каб Царква мела досыць сьвятароў да выкананьня сваей Божай Місіі. — Гэта ёсьць задача ўсяго грамадзтва, у якім малады чалавек жыве і гадуецца.

«А ў асаблівы спосаб гэта сёьць задача хрысьціянскіх сем'яў, якія, калі будуць ажыўлены духам веры і пабожнасьці, дык стануцца першымі (духоўнымі) сэмінарыямі. Сем'я ёсьць першым гародам, які родзіць Царкве многа сьвятых. Гэта-ж у сям'і зерне прызваньня найперш расьцьвітае і гадуецца. Мы зьвяртаемся да хрысьціянскіх сем'яў у хвалюючых словах нашага Папярэдніка, Пія XII-га: — «Што вы зробіце, калі Вучыцель зажадае ад вас часткі, якая належыцца Богу, гэта значыць, аднаго з вашых сыноў або адну з вашых дачок, якіх Бог вам даў, каб іх зрабіць сьвятарамі або законьніцамі?» —

— «Мы просім вас ад Божага Імя не загараджваць доступу ані ў аднэй душы, каб яна прыняла Божы заклік, сваімі самалюбнымі і брутальнымі паводзінамі». —

— «Вы ня ведаеце ані ўсходу, ні захаду сонца над маладымі сэрцамі: ня ведаеце іх неспакою і моцы, ані іх лятуценьняў і надзеі. Людзкое сэрца ёсьць глыбіня няведамая нават бацьку й матцы. —

«Асабліва мы зьвяртаемся да Цябе, Моладзь, якая больш як калі павінна ўслухацца ў голас Хрыста; а Хрыстос паказвае табе шырокія прасторы сьвету, што ўжо зусім «дасьпелі і гатовыя да жніва» (Ян 4, 35). На гэтых прасторах ёсьць вялікая нястача сьвятароў і місіянэраў... Сяньня моладзь у большай частцы хоча ня слоў, але ўчынкаў; моладзь хоча сама будаваць новы сьвет. А Царква дае моладзі неабсяжнае поле працы: яна паказвае моладзі душы — прагныя праўды, мноства нашых гарадоў і вёсак, мноства людзей нішчаных голадам, хваробай і заразай праказы. Царква паўтарае няўтомным голасам кліч Эвангельля: «Чаму вы стаіце цэлы дзень тут

бяз дзела. Ідзіце і вы ў мой вінаграднік!» (Мтв. 20, 6).

«Чуеце вы, Браты і вельмі дарагія Сыны, словы, якія плывуць з нашага сэрца: гэта ёсьць прыгатаваньне да Дня Малітвы на ўсім сьвеце аб прызнаньні . . .

Папа Павал VI.

У дзень сьв. Язэпа, 19. III. 1969.

*

Беларускі народ асабліва балюча адчувае нястачу сваіх сьвятароў. Ужо здаўна навучалі наш народ сьвятары чужыя — (палякі, расейцы) — яны пераважна лучылі душпастырства з сваей нацыяй: карысталі з нашае нясьведамасьці, адкідалі і брыдзілі беларускую мову і культуру, а ўгаварвалі, што беларус павінен быць палякам ці расейцам . . .

Такім чынам на Беларусі стварылася сытуацыя, якой няма нідзе на сьвеце, што нам нельга было гаварыць-маліцца да Бога ў роднай — «простай» — мове, але абавязкава ў чужой — «гасподзкайпанскай»! Што быццам у небе ўсе Сьвятыя гамоняць па польску, або па расейску (?) . . . І гэтак давялі наш народ да таго, што пачаў адчурацца ад рэлігіі і прыхіляцца да атэізму, пакідаючы веру, за якую нашыя прадзеды пралівалі кроў.

Такая сьлепата чужацкага духавенства зьдзеіла гістарычную крыўду беларускаму народу, а камуна-атэізм яшчэ горш паглыбляе катастрофу, не дапускаючы беларускага духавенства і нашае мовы ў сьвятынях, ані духоўных сэмінарыяў, ані беларускіх біскупаў ! . .

Прытым вядуць жорсткі прасьлед усялякіх праяваў рэлігіі, асабліва зводзячы пад прымусам дзяцей і моладзь сваімі падступнымі лёзунгамі і абяцанкамі.

Так спаўняецца прароцтва Эзэхіеля: «Рассыпаліся мае авечкі, бо ня мелі пастыра і сталіся спажывай усялякага дзікага зьвяра». (Эзэх. 34, 5).

Спадзяёмся, што Міласэрны Бог зжаліцца над нашым гаротным народам і вызваліць яго з рук бязбожных вылюдкаў. Але для гэтага патрэбнае нашае жаданьне і гарачая малітва, як кажам: «Прыйдзі Валадарства Тваё!».

Праўда, народ навучаны горкім дазнаньнем не жадае прыймаць чужых сьвятароў зь іх мовай і шавінізмам. Усе мы, каталікі і праваслаўныя, павінны шукаць сваіх пастыраў, падтрымліваць іх і памагаць ім. А бацькі павінны — паводле Божае волі — даваць сваіх дзяцей на вылучную Божую службу і гадаваць іх у гэтым духу. Гэта-ж вялікі гонар і шчасьце мець сьвятара з свайго роду і з сям'і! Гэтак будзем узмацняць сваю рэлігійную культуру і свой народ і сваю поўную незалежнасьць.

*

МАЛІТВА

з Літургіі пра сьвятарскія прызваньні

Просім Цябе, Госпадзе, пашлі работнікаў на сваё жніво, каб заўсёды споўніць загад Твайго Адзінароднага Сына і каб усюды аднаўляць Яго Ахвяру, Які з Табою і з Сьвятым Духам жыве і валадае на векі. Аман.

---

*Д-р В. Р.*

# Праф. Мікола Куліковіч не жыве

Пасьля кароткай, але цяжкой хваробы, адыйшоў з гэтага сьвету 31-га сакавіка 1969 шырока ведамы кампазытар М. Куліковіч. Ягоная прадчасная сьмерць, што скасіла выдатны талент на полі беларускай музыкалёгіі, выклікала глыбокае прыгнобленьне ў белар. калёніі ў Чыкага.

Паміма сваіх 75-ці гадоў, не гледзячы на зьяўленьне сымптомаў хваробы, праф. Куліковіч заставаўся волатам няўтомнае працы. Ён да апошніх дзён даваў рэгулярныя лекцыі музыкі, шыкуючы вучняў да выступу, які меўся адбыцца 9-га сакавіка.

А нат і ў цяжкой хваробе праф. Мікола жыва інтэрэсаваўся праграмай 25 Сакавіка, бо меўся весьці вакальна-музычную частку. На жаль, ён прачуваў, што дні палічаныя . . .

Прыняўшы апошнія рэлігійныя паслугі, М. Куліковіч спакойна закончыў жыцьцёвы шлях. Цела нябошчыка было перавезена са шпіталя сьв. Альжбеты ў паховінны дом «Музыка і Сын». Адначасна ўсе беларускія асяродкі ў Амэрыцы, Канадзе, а таксама ў Эўропе былі павядомленыя аб сьмерці Куліковіча. Шматлікія вянкі ды кветкі ад розных беларускіх арганізацыяў і прыватных людзей ўпрыгожвалі дамавіну. У сераду а гадз. 9-ай вечарам пры вялікай грамадзе белар. калёніі ды ягоных вучняў і знаёмых была адсьпяваная жалобная служба Айцамі Тарасэвічамі, пасьля заканчэньня якой сп. Вацлаў Пануцэвіч сказаў пасьмертную прамову.

Дня 3-га красавіка цела М. Куліковіча было перавезена ў царкву Сьв. Спаса пры 3107 Вэст Фуллертон Авэню, дзе была адпраўлена жалобная Літургія, у часе якой сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Кіслага з Клівленду. Жалобную казань гаварыў а. Янка Тарасэвіч, у якой падкрэсьліў выдатны талент нябошчыка, як Божы дар, які ён добра выкарыстаў для славы беларускага народу і культуры.

Пасьля жалобнай Багаслужбы цела было перавезена на магільнік сьв. Адальбэрта: над



магілай была адсьпяваная ўсей жалобнай грамадой песьня: «Сьпі пад курганам герояў».

Па заканчэньні жалобнай урачыстасьці ўсе прысутныя сабраліся ў салі Беларускага Культурнага Цэнтру. Сярод прысутных былі прадстаўнікі Дэтроіт, Клівленду, Рачэстэр, Нью Ёрку і з Канады. У часе пачастунку выступалі прадстаўнікі ад бел. арганізацыяў. Д-р Яз. Сажыц з Дэтроіт — ад галоўнай Управы БАЗА, падкрэсьліў заслугі праф. Куліковіча для бел. мастацтва і нашага Народу. Ад аддзелу БАЗА ў Дэтроіт гаварыў сп. Юрка Мазура, успамінаючы блізкае сужыцьцё з праф., калі наведваў кансэрваторюю ў Нямеччыне. Ад белар. моладзі ў Амэрыцы з кароткім словам выступаў сп. К. Кіслы, дырыгент хору ў Клівлендзе, падкрэсьляючы цеснае супрацоўніцтва Куліковіча з моладзьдзю ў часе яго бытнасьці ў Клівлендзе, як і пазьней, на полі выдавецтва ягоных музычных твораў.

Сп. Барыс Кірка з Таронта, Канада, прадстаўнік Галоўнае Управы ЗБК і Парахвіяльнае Рады сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, выказаў спачуваньні жонцы нябошчыка Надзеі, падкрэсьліўшы, што творы праф. Куліковіча будуць жывым памятнікам, а памяць аб ім будзе вечна жыць у сэрцах Беларускага Народу.

Паэтэса Наталя Арсеньнева, блізкая супрацоўніца праф. Куліковіча, замест прамовы сказала верш пасьвячаны памяці нябошчыка. А быўшая вучаніца прафэсара, Вера Рамук, успомніла мамэнты, калі Куліковіч быў заўсёды заінтэрасаваны падгатоўкай кадраў для беларускай эстрады і бываў занепакоены, што моладзь ня цікавіцца дастаткова беларускім фальклёрам ды што няма кандыдатаў заняць мейсца тых, якія будуць змушаны адыйсьці з гэтага сьвету.

Сп. Янка Чарнэцкі падкрэсьліў, што нябошчык быў уроджаным мастаком. Айцы Янка і Уладзімер Тарасэвіч падкрэсьлілі, што дзейнасьць праф. Куліковіча павінна быць прадоўжана і заклікалі спадароў Мазуру і Кіслага пасьвяціцца гэтай справе.

Спадарыня Багдан падкрэсьліла працавітасьць Куліковіча і ягоныя добрыя і ветлівыя дачыненьні да ейных дзяцей у навуцы музыкі на фартэпіяне.

Наступна сп. Нікодам Жызьнеўскі, кіраўнік Беларускага Радыё «Нёман» і адначасна старшыня Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Ілінойс, заклікаў ушанаваць памяць нябошчыка распаўсюджваючы кружэлкі ягоных песьняў.

У канцовым слове д-р В. Рамук адзначыў, што найлепшым памятнікам для сьв. пам. праф. Куліковіча будзе выданьне ягоных неапублікаваных твораў, якія прычыняцца да павялічэньня скарбніцы беларускай музычнай культуры, а таксама ўспомніў выступы ягонай першай жонкі, цяперашняй Майсеевай і сьв. п. іхняй дачкі Тусі, каторыя ча-



равалі беларускую публіку ў лягерах у Нямеччыне сваімі дуэтамі, падкрэсьляючы адзінасьць гэтае сям'і на полі музычнай і нацыянальнай дзейнасьці.

У часе паховін было пастаноўлена зладзіць канцэрт у памяць праф. М. Куліковіча ў наступнай восені з удзелам ягоных вучняў і

сьпевакоў, як Віціка, Паўлюкоўскага ды іншых, для каторых прафэсар быў акампаньятарам.

*

Зацемкі аб сьмерці праф. Куліковіча былі замешчаныя ў лякальных газэтах: Чыкаго Трыб'юн, Сан Таймс, Чыкаго Дэйлі Ньюс, Чыкаго Амэрыкэн, Нортвэст Гэральд і ў Дзеніку Зьвязковым. Адпаведная зацемка па ангельску аб праф. Куліковічу была перададзена ў мясцовым радыё, у праграме «Лібэрты Бэлль Саллінг».

Хаця Куліковіч лятуцеў дачакацца вольнасьці сваей роднай Беларускай Зямлі і знайсьці вечны супачынак на ёй, аднак з Божае волі сталася інакш. Дык няхай Яму будзе лёгкай гэтая прытульная Амэрыканская Зямелька!

Д-р В. Р.

*Вацлаў Пануцэвіч*

# Слова аб заслугах праф. М. Куліковіча

2-га красавіка 1969 ў Чыкага

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Зыйшліся мы тут на апошняе разьвітаньне з нябошчыкам праф. Міколам Куліковічам, выдатным кампазытарам, стойкім барацьбітом за свабоду нашага Беларускага Народу. Зьняможаны немачай падаўся ён у іншы сьвет, дзе (спадзяёмся) знайшоў вечны супакой; а мы коратка падсумуем ягоны пройдзены шлях і заслугі, просячы Бога, каб з сваей ласкі «памянуў яго ў Валадарстве Нябесным».

Натура абдарыла Куліковіча высокімі здольнасьцямі, працавітасьцяй, вытрываласьцяй, любоўю да зьняволенага народу. І яму то — народу — цэласна ён аддаў усё, што меў — і здольнасьці, і навуку, і працу, нічога для сябе ня вымагаючы.

Служыў свайму народу, як праўдзівы жаўнер. Ягонай зброяй заўсёды было МАСТАЦТВА ў многіх відах: ён быў музыкам, кампазытарам, прафэсарам, дырыжорам хораў, аркестраў, рэжысёрам і пастаноўшчыкам опэры, балету, тэатральных пастановак, эстрадных выступаў. Ён народным песьням і мэлёдыям надаваў нацыянальны размах, стройнасьць музычнай культуры.

Пісаў вялікія беларускія опэры, музычныя драмы і патрыятычныя песьні на словы нацыянальных паэтаў. Распрацоўваў гісторыю белар. музычнага мастацтва — так сьвецкага як царкоўнага. Бараніў самостойнасьць бел. мастацтва словам і пяром, публікуючы артыкулы ў газэтах і часапісах, у асобных кніжках.

Спадчына ягоная вялікая і ёй ганарыцца белар. народ: гэта — тамы народных песьняў, мэлёдыяў, танцаў і драматычных твораў, — арыгінальныя ды поўныя мастацкай і нацыянальнай глыбіні ОПЭРЫ, як «Лясное возера», «Усяслаў-Чарадзей». — Частка ягонай спадчыны яшчэ пры жыцьці Куліковіча, бяз ніякае матар'яльнае карысьці, была апублікаваная, а бальшыня чакае на свайго выдаўца.

*

Ня ўсе бачылі ягоныя цудоўныя пастаўноўкі беларускіх опэраў у Менску ў часе апошняе вайны, ня ўсе пабывалі на праграмах ягонай эстраднай групы «Жыве Беларусь» у Нямеччыне — перад капітуляцыяй і пасьля вайны ў табарах ДП, дзе нябошчык сам са сваей мастацкай групай уводзіў тысячы глядачоў у вышэйшы стан нацыянальнага пачуцьця, гордасьці з беларускага мастацтва, роздуму аб неабходнасьці змагацца за вызваленьне. А ў чужынцоў гэта выклікала прызнаньне і чуласьць да беларускага народу, да ягонае культуры.

Але хіба кожны з вас чуў і сам сьпявае рад патрыятычных песьняў, мэлёдыі да якіх стварыў Куліковіч. У «Пагоні» вы адчуваеце магутнасьць нашай мінулай літоўскай дзяржавы — ВКЛ, дзе чуецца бура з маланкамі і громам, стогн зямлі пад конскімі капытамі, грымот мячоў па панцырах і шлемах, енк падаючых і трыумф перамогі. А ў песьні «О, Беларусь, мая шыпшына!» вы адчуваеце глыбіню беларускае душы, любоў і веру, што Беларусь — ня быліна, але як польная шыпшына з калючкамі, — вытрывалая, непакорная, нязломная.

З мэлёдыямі Куліковіча цьвёрда крочыў беларускі жаўнер, юнак і юначка супраць усялякіх варожых сілаў — «У гушчарах затканых імглою», «Ідуць жаўнеры Беларусы», — гэта толькі для прыкладу. На песьню «Беларусь, Наша Маці-Краіна» — маліліся нашы жаўнеры, юнакі, скаўты . . .

А калі бальшавіцкая навала зноў акупавала наш народ, наш Пясьняр не пайшоў сьлядамі малых духам, якія ламаліся — падалі ніцма перад ворагам. Ён узяў торбу пілігрыма за плечы, а сваю родную музу за пазуху дый перайшоў з многімі на Захад, каб

музаю, мастацкім словам і пяром шырыць праўду аб няволі народу, каб беларускае імя сталася ведамым усюды, каб вольныя народы дапамаглі вызваліцца.

Цяжкі гэты шлях — без славы, без матар'яльнай карысьці, у стоме, у немачы . . . Але праф. Куліковіч з яго ня зыходзіў да апошняга дыханьня. У гэтым ягонае геройства.

*

І ня толькі сваей музай ён служыў народу. Ён пільна сачыў за падзеямі на Бацькаўшчыне, атакаваў у публікацыях варожы наступ на беларускае мастацтва, на нашу духовую культуру і на шалёную русыфікацыю. Бальшавіцкія стаўленьнікі бачылі ў ім вялікага абаронцу Беларусі ды таленавітага прадстаўніка на эміграцыі. Таму атакавалі яго ў няпрыстойных публікацыях, імкнуліся яго панізіць. Але праўдзівага барацьбіта не магла зламаць мана, ні лаянка.

І яшчэ аб адным аспэкце. Куліковіч быў чалавекам глыбока рэлігійным, міма доўгага прабываньня і працы пад бязбожным камунізмам. Пачынаючы ад другой вайны ён цесна працаваў з Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквой, быў некаторы час рэгентам у Кліўляндзе, а апошнія гады супрацоўнічаў з экумэнічным беларускім царкоўным рухам. Апрацаваў таксама ЛІТУРГІЮ у духу беларускіх матываў.

Хай-жа сьніцца яму Беларусь, а ягоная вялікая творчая СПАДЧЫНА хай будзе настольнай кнігай для ўсіх нашых суродзічаў!

Чэсьць ягонай Памяці!

## *З царкоўнага жыцьця*

ВАТЫКАН: Новыя КАРДЫНАЛЫ. Павал VI назначыў 35 новых кардыналаў і так лік іх дайшоў да 136. Калі да часоў Яна XXIII лік кардыналаў нельга было падняць вышэй 70-ці, то — бачым — цяпер блізка падвоіўся. А пры гэтым лік кардыналаў італьянскіх у працэнтах значна зьнізіўся, так што лёгка прадбачыць выбар Папы з іншых народаў. Дый цяпер зьяўляюцца кардынады ў краінах новых, як у Карэі, у Новай Зэляндыі, у Шкоцыі і павялічыўся іх лік у Паўдзённай Амэрыцы і Афрыцы. Гэтак Каталіцкая Царква набірае характару сапраўды міжнароднага, тымбольш, што ў склад Ватыканскай Курыі прыбывае ўсё больш чужаземцаў на мейсца ўступаючых італьянцаў.

Зь вялікім дзівам заўважыліся зьмены ў вопратцы кардыналаў: скасаваны кардынальскія капэлюшы і доўгія трэны, як і сам Папа адрокся ўрачыстае тыяры і шмат якіх тытулаў. Такім спосабам і ў вонкавых выступах Царква становіцца згодная з эвангельскім духам прастаты і пакоры.

Значна ўпрошчаны правілы бэатыфікацыі і кананізацыі сьвятых, а з гэтым і кошты кананічных працэсаў і судоў: вялікая частка такіх працэсаў пераносіцца да мяйсцовых біскупаў і краёвых канфэрэнцыяў. Аднак гэта не значыць, што вымогі да сьвятасьці зьменшыліся: для гэтага, як ведама, патрэба вялікай Божай ласкі і асабістых гераічных цнотаў і заслугаў перад Богам і чалавецтвам.

*

ВАТЫКАН: Папа ў прамове ў Вербную Нядзелю высказаўся пра цяперашнюю м о л а д з ь, што яна дамагаецца свабоды, навасьці і арыгінальнасьці, але аддае сваю энэргію на нэгатыўныя справы, як дэманстрацыі, пратэсты, акупацыі і інш., але не дае нічога пазытыўнага на мейсца таго, што хоча разбурыць, — Папа заклікае моладзь, каб памагла цяперашняму сьвету пазнаць, што толькі Хрыстос ёсьць сапраўдным Збаўцам сьвету. Трэба старанна пазнаваць Самога Госпада і ягоную навуку: гэтак толькі сьвет можа узрадзіцца і асьцерагчыся хаосу і міжнароднай катастрофы ў атамнай вайне.

*

ВАТЫКАН — АФРЫКА — РАДЭЗІЯ: Тут існуе пяць дыяцэзіяў, якія маюць адну супольную духоўную сэмінарыю. Сёлета ўступіла новых 50 студэнтаў-клерыкаў, дык стала вельмі цесна ў старым будынку, але не хапае сродкаў на разбудову: духоўныя ўлады зьвярнуліся да Ватыкану з просьбай помачы. Падобная зьява выявілася ў жаночых кляштарах Родэзіі: кандыдатак лік прыбывае, а ў памяшчэньнях вялізная перагрузка!

*

ВАТЫКАН — АФРЫКА — УГАНДА: Нядаўна Папа абвясьціў сваю паездку ў гор. Кампаля, сталіцу рэспублікі Уганда ў Цэнтр. Афрыцы. Там 31-га ліпеня адбудзецца пасьвячэньне аўтара 22-х афрыканскіх мучанікаў, якіх Павал VI на пачатку свайго пантыфікату кананізаваў. Аўтар мучанікаў уладжаны ў базыліцы гораду Кампаля. Пры гэтай нагодзе Папа адчыніць Кангрэс усіх афрыканскіх біскупаў у Кампаля і будзе мець аказію пазнаёміцца з патрэбамі Каталіцкай Царквы ў Афрыцы, якая значна схіляецца да Рыму, асабліва сама Уганда, дзе на 7 мільёнаў жыхароў ёсьць 3 міл. каталікоў.

Афрыка мае цяпер нямала прызваньняў да

сьвятарства, толькі бяда ў тым, што не хапае сродкаў на пабудову новых сэмінарыяў і на ўтрыманьне існуючых.

✳

ВАТЫКАН — ШВАЙЦАРЫЯ: У чэрвені г. г. Папа паедзе ў Жэнэву на Канфэрэнцыю Міжнароднай Арганізацыі Працы, якая ў гэтым годзе сьвяткуе 50-годзьдзе свайго існаваньня.

Гэтым Папа і наагул Каталіцкая Царква аказвае пашану для Арганізацыі і для ейнага дзела, п р а ц ы. Дырэктар Арганізацыі выслаў падзяку Папе, у якой піша: «Яго Сьвятасьць яшчэ раз аказвае сваю глыбокую руплівасьць пра лёс людзей працы на ўсім сьвеце, а праца над разьвіцьцём іх дабрабыту ёсьць рацыяй існаваньня Міжнароднай Арганізацыі Працы».

Карыстаючы з гэтае нагоды, Папа таксама зробіць візыту ў Сусьветнай Радзе Цэркваў, якая мае сваю сялібу ў Жэнэве. Дырэктар Рады выразіў сваё здаваленьне з намеру Папы, кажучы:

«Горача вітаем намер Яго Сьвятасьці наведаць сялібу Сусьветнай Рады Цэркваў. Гэтыя наведзіны падкрэсьляць узрастаючае збліжэньне між хрысьціянамі. Я вельмі шчасьлівы, што магу прыняць Вашу Сьвятасьць ад імя Ўправы Рады».

✳

ГІШПАНІЯ: Арцыбіскуп у Мадрыдзе, кардынал Морсіліё, адрокся ад становішча пасла ў Кортэзах (у парляманце) і ад учасьця ў Радзе дзяржавы і ў Радзе Рэгенцыі: гэтыя сьвецкіяфактычныя і ганаровыя месцы — вельмі мяшалі ў незалежнай службе Царкве і наагул зьвязывалі дзейнасьць архібіскупа, робячы яго адказным за дзейнасьць сьвецкага ўраду, дыктатуры.

✳

У ГІШПАНІІ: Каталіцкая Царква вельмі адчувае цяжар залежнасьці ад ураду і ягонае дыктатуры. Праўда, урад нямала памагае Царкве эканамічна і ў справах каталіцкае прасьветы і інш. Але гэты стан стварае ізаляцыю Царквы ад грамадзтва, асабліва ад рабочае клясы. Царква мусіць бараніць беднату і работнікаў: гэтага дамагаецца малодшае духавенства і моладзь, асабліва студэнты. Дык Царква няраз бывае змушана выступаць супраць ураду і змагацца з ім.

Але біскупы баяцца, каб духавенства занадтая мешалася ў палітыку, а малодшыя сьвятары каб не скланяліся зашмат улева... Ведама, патрэбна ў ва ўсім асьцярожнасьць і аглядаасьць, аднак патрэбна і рашучасьць, а нават рызыка, калі Царква мусіць бараніць пакрыўджаных.

✳

САВ. УКРАІНА — КІЕЎ: Часапіс «Католік Гэральд» — Лёндан з дня 17. IV. 1969, — паведаміў, што ў турме памёр грэка-каталіцкі біскуп Васіль Велічкоўскі: ён быў кансэкраваны мітрапалітам (кардыналам) Сьліпым у 1945. Працаваў у Савецкай Украіне неафіцыяльна.

Адзін агент тайнай паліцыі — правакатар — адведаў яго, падаючыся за францускага турысту і паказаў свае фальшывыя дакуманты. Біскуп паверыў яму і пераказаў весткі для Папы аб неафіцыяльнай працы Каталіцкае Царквы на Украіне. Незадоўга біскупа арыштавалі, калі вертаўся ад хворага. «Кат. Гэральда» падае, што біскуп Велічкоўскі быў падчас сьледзтва забіты.

✳

ЮГАСЛАВІЯ: У апошнюю пару адносіны між Каталіцкай Царквою і ўрадам тут пагоршыліся. Нагодай да гэтага было тое, што выйшла саборнае пасланьне біскупаў да вернікаў, у якім яны выказаліся супраць аборту і супраць штучных сродкаў ад пачацьця — паводле думкі апошняе Энцыклікі «Гуманэ Вітэ». Урад абвінаваціў біскупаў у неляяльнасьці. Але біскупы адказалі, што маюць права, як гэта пазволена канстытуцыяй, выказваць свае погляды і перакананьні асабліва ў такіх важных справах. А таксама маюць абавязак павучаць вернікаў. Прытым каталіцкія біскупы спасլаліся на Праваслаўную Царкву, якая супрацівілася ўрадовым загадам. А сьвецкі ўрад — на падставе аддзяленьня Царквы ад дзяржавы — не мае повaду мяшацца да царкоўных законаў.

✳

ПАЎДЗ. АМЭРЫКА — ЧЫЛІ: Нядаўна біскуп дыяцэзіі Талька пасьвяціў на дыякана аднаго жанатага чалавека — згодна з пазваленьнем II-га Ватыканскага Сабору. Гэтая дыяцэзія вельмі адчувае нястачу сьвятароў, бо на 400 тысяч вернікаў налічвае іх толькі 120! Такіх жанатых дыяканаў мае біскуп пасьвяціць яшчэ 25, каб маглі хоць часткова заступаць сьвятароў.

✳

АРГЕНТЫНА: Значны неспакой існуе між духавенствам маладым і гарачым, якое абураецца на павольнасьць і маўчаньне некаторых біскупаў, калі трэба рашуча выступаць у абароне работнікаў і наагул беднаты, пакрыўджанай капіталістамі. У Розаріо, найбольшай дыяцэзіі, 30 сьвятароў збунтавалася з пратэстам супраць несправядлівасьці ўраду.

У касьцёлах адбываюцца публічныя малітвы пра супакой і згоду ў духавенстве і народзе. — Наагул такое сумнае зьявішча выказвае і свае добрыя староны, што грамадзтва шукае рады і ратунку ў Бога і ў людзей: ёсьць надзея, што матар'яльныя і маральныя цяжкасьці будуць памысна і справядліва папраўлены.

## СЬВЯТАЯ ЛІТУРГІЯ Ў ТЭЛЕВІЗІІ

Гэта зусім новая праблема ў Царкве. Да гэтага часу нярэдка даваліся здымкі ў тэлевізіі з набажэнстваў асабліва ўрачыстых. Аднак яны мелі мэту не для малітвы, а больш для інфармацыі і цікавасьці. Цяпер-жа царкоўная ўлада зразумела, што магчыма і пільна патрэбу выкарыстаць тэлевізію для пабожнасьці вернікаў, калі яны хочуць скарыстаць з магчымасьці лучыцца з сьвятой ахвяраю — маліцца адначасна і разам з сьвятаром і з усім царкоўным народам сьвету.

Няма сумніву, што тэлевізія паслужыць найбольш тым, якія ня могуць прыходзіць у сьвятыні, як хворыя, старыя, далёкія і занятыя так, што ня могуць пакінуць сваіх дамоў ці абавязкаў. Дзеля гэтага ў некаторых краінах, як на шырокіх прасторах КАНАДЫ, духоўныя ўлады спэцыяльна ладзяць тэлевізыйныя Божыя службы для гледачоў і слухачоў — пабожных і жадаючых. Пры гэтым сьвятары гавораць адпаведныя казаньні.

Усё-ж пры гэтым узьнікае пытаньне, ці Літургія ў тэлевізіі лічыцца важнай для людзей, якія без паважнай прычыны ня прыходзяць да сьвятыняў? Тымчасам яшчэ няма пэўнага адказу і выясьненьня Царквы, значыць, трэба трымацца даўнейшага парадку, што нельга прапускаць асабістага ўдзелу ў сьвятыні.

# З беларускага жыцьця

## УГОДКІ ДЗЯРЖАЎНАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ У БРАДФАРДЗЕ

30-га сакавіка сёлета ў залі Беларускага Грамадзкага Дому ў Брадфардзе адбылася ўрачыстая Акадэмія прысьвечана 51-ым угодкам абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларускае Народное Рэспублікі Актам 25 Сакавіка 1918 году.

*Сьв. Літургія й Малебен*

Раніцай а гадзіне 11-30 у капліцы сьв. Спаса а. Янка Абабурка — Настаяцель Б.А.П.Царквы ў Вялікай Брытаніі адслужыў урачыстую сьв. Літургію й Малебен за Беларускіх змагароў, дзеячоў і выдатных сыноў, якія аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за векапомны Акт 25 Сакавіка. У прынагодным зьмястоўным казаньні а. Янка прыгадаў прысутным вернікам БАПЦ, якую важную ролю ў жыцьці й гісторыі нашага Народу адыгралі тыя, што няўтомнаю працаю і змаганьнем абвесьцілі Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. Гэты прыклад павінен застацца ў нашай памяці.

*Акадэмія*

А гадзіне 2-30 па паўдні Старшыня Управы Аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе сп. Янка Калбаса адкрыў урачыстую Акадэмію і прывітаў прысутных з нацыянальным сьвятам. Старшыня зачытаў таксама надасланыя Сакавіковыя прывітаньні ад Гал. Управы ЗБВБ, Гал. Управы БАЗА ў Нью Ёрку, Аддзелу БАЗА у Лёс Анджэлес і Сэктара Рады БНР на Вялікую Брытанію зь Лёндану й папрасіў сп. Ст. Мака — сакратара Аддзелу ЗБВБ — прачытаць Рэфэрат прызначаны гэтай даце.

Прысутныя суродзічы, сябры ЗБВБ, вернікі БАПЦ і госьці ўважліва перaслухалі восокага зьместу Рэфэрат, які паясьняў вельмі дакладна ўсё тое, дзеля чаго Беларусь мае поўнае права жыць у сваей вольнай дзяржаве. З Рэфэрату прысутныя даведаліся, якія заходы робяць бальшавікі, каб толькі зьнішчыць змаганьне беларусаў за межамі Бацькаўшчыны. На заканчэньне прысутныя адсьпявалі Беларускі Нацыянальны Гімн — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі . . .»

*Таварыская бяседа*

Сп. Янка Калбаса паінфармаваў суродзічаў, што гэтыя ўгодкі адзначаюцца апошні раз у старым будынку й наступныя будуць сьвяткавацца ў новым, які куплены й справы афармляюцца адвакатамі, а таксама, што стары дом праданы гарадзкой управе пад развал. Перасяленьне ў новы дом мае адбыцца пасьля Гадавога Агульнага Зьезду сяброў ЗБВБ у Лёндане 29-га чэрвеня сёлета.

Новы Дом для беларусаў будзе выгадным тым, што ён будзе ў адным з лепшых кварталаў гораду і пры згрупаваньні іншых нацыянальных клюбаў з якімі Аддзел ЗБВБ супрацоўнічае. Зразумела прыдзецца прылажыць шмат стараньняў, каб зрабіць патрэбныя для грамадзкай працы ўмовы. Дом гэты будзе пры аднэй з галоўных вуліцаў Брадфорду — Манінгам Лейн, ды прапануецца надаць новы назоў як: Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр Беларусаў у Брадфардзе.

Пры прыгожа прыгатаваным спадарствам Хв. і Марыяй Лемяшонкаў стале, прысутныя правялі весяла нацыянальнае сьвята Беларусі.

*Янка* КРУШЫНА

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25-ГА САКАВІКА Ў ЛЁНДАНЕ

Лёнданскі аддзел Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ладзіў у суботу 29-га сакавіка сьвяткаваньне 51-шых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Урачыстасьць адбылася ў вялікай залі Школы сьв. Кірылы. Даклад на тэму дня прачытаў старшыня аддзелу сп. Я. Сяўковіч. Вучні Школы сьв. Кірылы наладзілі мастацкую частку. Пасьля заканчэньня афіцыяльнай часткі было скромнае прыняцьце. Былі прысутныя шматлікія беларусы з Лёндану і аколіцы.

## ЗАКАНЧЭНЬНЕ КУРСУ БЕЛАРУСАВЕДЫ

У чацьвер 15-га траўня ў памешканьні Брытанскай Акадэміі ў Лёндане праф. Рабэрт Оты прачытаў лекцыю на тэму «Месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў з пункту гледжаньня параўнаўчай філялёгіі». Гэта была апошняя лекцыя курсу гісторыі беларускай культуры, зарганізаванага Ангельска-беларускім Таварыствам у 1968—69 акадэмічным годзе. Дакладчык, які зьяўляецца прафэсарам параўнаўчай славянскай філялёгіі на Оксфардзкім унівэрсытэце, найперш разгледзеў розныя фанэтычныя і марфалягічныя асаблівасьці беларускай мовы ў параўнаньні з іншымі славянскімі мовамі, стараючыся даць таксама коратка гісторыю іхняга ўзнікненьня і разьвіцьця. Другую частку свайго дакладу ён пасьвяціў пытаньню ўтварэньня сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Цікавая тэма дакладу выклікала пасьля доўгую і ажыўленую дыскусію. Сярод шматлікіх прысутных былі выкладчыкі і студэнты Лёнданскага, Рэдынгскага і Нотыгамскага унівэрсытэтаў.

Да гэтага часу ўжо адбыліся ў Лёндане тры курсы беларусаведы і ўсе яны прайшлі вельмі пасьпяхова. За гэта належыцца шчырае прызнаньне Ангельска-беларускаму таварыству. Трэба спадзявацца, што ладжаньне падобных курсаў кожны год увойдзе ў традыцыю.

## СЬВЕЖАЯ МАГІЛА

2-га траўня памёр у Нотынгаме пасьля цяжкай хваробы сп. УЛАДЗІМІР КАПАЧ на 45-тым годзе свайго жыцьця.

Нябожчык паходзіў з Наваградчыны. Прыехаўшы ў Англію пасьля вайны, ён амаль цэлы час жыў у Нотынгаме, дзе прымаў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці, асабліва ў жыцьці мясцовай Беларускай Праваслаўнай парафіі, адным з арганізатараў якой ён быў. Ён вызначаўся вялікай ахвярнасьцю і быў заўсёды гатовы памагчы кожнаму. Дзеля гэтага ягоную страту балюча адчула ня толькі ягоная сям'я, але ўсе беларусы з Нотынгаму і аколіцы, якія яго ведалі і паважалі.

Паховіны адбыліся ў чацьвер 8-га траўня. Хаваў а. Янка Абабурка.

Рэдакцыя «Божым Шляхам» гэтым хоча выразіць свае шчырыя спачуваньні ўдаве і дзецям сп. Капача, з прычыны іхняй вялікай страты.

# З лістоў у рэдакцыю

31 сакавіка 1969 г. ВАШЫНГТОН:

Доктару Пашкевічу я перасылала 5 даляраў, але пошта вярнула іх назад з паведамленьнем, што ня можа ў Бразылію іх пасылаць. Чаму з Амэрыкі нельга паслаць грошы ў Бразылію, я ня ведаю.

Можа-б Вы параілі мне іншы спосаб перасылкі.

*З пашанаю А. А-віч*

Увага рэдакцыі:

Дасюль мы трымаліся акружной дарогі: добрыя людзі прысылалі ахвяры для д-ра Язэпа Пашкевіча праз нашую рэдакцыю. Мы тады-ж паведамлялі аб гэтым Біскупа Ч. Сіповіча, які перасылаў з Рыму у Бразылію і грошы даходзілі паводле адрасу таму хвораму Чалавеку, які зара квітаваў аб гэтым нам

Пры гэтай аказіі рэдакцыя яшчэ раз апэлюе да нашага Грамадзтва — памагаць нашаму Дарагому Я. Пашкевічу! Перш мы яго называлі ягоным псэўдонімам «Др. Віктар Небядовіч», але цяпер — за яго ягодай — раскрыта ягоная сапраўдная фамілія — Д-р Язэп ПАШКЕВІЧ.

Тым Дабрадзеям, якія ахвотна адазваліся на наш першы заклік, рэдакцыя шле ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ?

*

АМЭРЫКА-МАСС.: Дарагі а. Рэдактар!

№ 6-ы «Божым Шляхам» з 1968 мы атрымалі толькі 27 лютага. Гэты № быў асабліва цікавы, а ў ім арт. «3-яя вайна і канец сьвету». Я ўжо непакоіўся, што часапіс недзе затраціўся, бо ў нас ад 10-га лютага пачалася вострая зіма і сьнегу так навaліла, што і пошты не насілі! Школы былі зачыненыя, а транспарт стрыманы — аж цягнікі зыходзілі з рэек! А каго мяцеліца залавіла ў дарозе, тыя пакідалі машыны і брылі па сьнягу, каб затрымацца і абагрэцца. І так сотні машын былі пакіненыя на дарогах і прычынялі нямала клопату тым, што ачышчалі шосы.

Таксама нямала провадаў было пашкоджаных і элекр. сьвятло ня дзеіла. У гор. Бостоне на некаторых будынках заламаліся дахі і нават здарыліся сьмяротныя выпадкі.

Нарэшце пошта пачала працаваць і я атрымаў часапіс. Ведама, як гэта часта бывае, я пачаў чытаць часапіс ад канца: байкі, жарты, лісты ў рэдакцыю і так дайшоў да Каляднага пасланьня Біскупа Ч. Сіповіча. Цешуся, што з гэтага ёсьць частка і для мяне, бо Уладыка пасылае ўсім — каталіком, праваслаўным, сэктантам і бязбожнікам — суродзічам.

Усе яны беларусы, блізкія сэрцу, але пагляды іхныя інакшыя. Праваслаўныя хваляцца тым, што вяртаюцца да першабытных хрысьціян; а каталікі ганарюцца, што не адставалі ад старога строю, а пратэстанты дамагаюцца паўторнага хросту . . .

Тут я затрымоўліваюся на радкох напісаных Уладыкай — «Любоў Бога і бліжняга». Але-ж гэтыя самыя словы выказаў Ісус Хрыстос! І таксама гэтага вучыць кажны праваслаўны біскуп і сьвятар, значыць, што каталіцкая і праваслаўная Царква ў навучаньні не адсталі ад першабытных хрысьціян. Але мы, цяперашнія людзі, вельмі далёка ад гэных веручых, якія прызналі Ісуса Хрыста і нават прадавалі сваю маемасьць і раздавалі патрабуючым.

«У грамадзе веручых было адно сэрца і адна душа, і ніхто нічога з маемасьці не называў сваім, але ўсё ў іх было супольнае». (Апост. Дзеі 4, 32). Цяпер мы скарэй пазайздросьцім таму, хто больш мае ад нас. Думаю, што лепш было-б не хваліцца сваей рэлігіяй, а больш зьвярнуць увагу на словы Уладыкі: «Любоў Бога і бліжняга. На гэтым — Закон і прарокі»! . . .

Артыкул «3-яя вайна і канец сьвету» ёсьць вельмі важны. Апрача таго, што напісаны прыгожа, тут вельмі далікатна закрануты праблемы сучаснай сытуацыі на сьвеце. Артыкул ёсьць павучальны, а можна прызнаць прарочым.

Пушкін калісьці пісаў: Я не хачу паверыць, што кіраўнікі народаў не зразумеюць таго, што войны ёсьць шкоднымі чалавецтву. Прыйдзе час, што кіраўнічыя ўлады ўстановяць трывалы м і р, а людзі будуць жыць бяз страху вайны».

Пушкін цьвёрда верыў, што з узростам тэхнікі і цывілізацыі да ўлады прыдуць людзі, якія зразумеюць значэньне міру. Аднак амаль паўтара стагодзьдзя мінула, а войны ня спыніліся. Гітлер і Муссоліні ганебна закончылі сваё жыцьцё і з вельмі паскуднай славай увайшлі ў гісторыю. А кіруючыя ўлады так і не навучыліся з мінулага.

*Н-скі*

5. III. 1969.

МАССАЧУЗЭТ: 6-га нумару «БШляхам», думаю, Ваш артыкул будзе цікавы і павучальны. Але ці-ж на гэта зьвернуць увагу тыя, у чыіх руках ёсьць сіла, каб утрымаць супакой на зямлі?

Помню, як я быў яшчэ падросткам, у адным часапісе чытаў вельмі цікавы артыкул аб тэхніцы і дзікасьці, пад загалоўкам: «Дзікун не давучыўся ці перавучыўся?»

Аўтар выясьняў, што тэхніка — гэта справа людзей разумных. Ужо зрабіць самалёт — трэба вялізнай мудрасьці. Але падвесіць пад яго бомбу, наляцець і зьнішчыць фабрыкі ці масты, а прытым забіваць людзей няпрычасных да вайны, гэта ёсьць знак дзікасьці. І аўтар казаў, што «дзікун перавучыўся!»

Яшчэ ў 1922 г. у Нямеччыне гаварылася аб атамнай энэргіі. На міжнародным зьезьдзе казалі, што прыйдзе час (хутка ці не?), што чалавек атрымае ў свае рукі струмень энэргіі, якая заменіць жывую сілу і дасьць палёгку ў працы. Аднак ужо тады асьцерагалі: «Ці чалавек ужыве гэтую энэргію на карысць людзтва?»

Мінула 23 гады і першая атамная бомба зьнішчыла адразу 200.000 людзей! А што станецца, калі настане шалёны час атамнай вайны! Самі працаўнікі ў атамных фабрыках кажуць, што ні адна старана не атрымае перамогі, але загіне цывілізацыя і нашая плянэта можа астацца мёртвай.

Мы пыталі карэспандэнтаў, якую зброю будуць ворагі ўжываць у III-яй вайне? Яны выказалі думку д-ра Эйнштэйна, бацькі атамнай энэргіі, што ён ня ведае, але можа сказаць, якую зброю будуць ужываць у IV-ай вайне. А як запыталі: «Чым будуць ваяваць у IV-ай вайне?», тады Эйнштэйн адказаў: «Кіямі і каменьнямі».

Значыць, тады сьвет будзе складацца з самых дзікуноў.

Магчыма, што Бог дапусьціць да III-яй вайны, але ўжо IV-ай ня будзе, бо ў III-яй пагінуць усе злачынцы, а на зямлі будзе вольнае, спакойнае жыцьцё пад апекай Самога Ісуса Хрыста.

*Н-скі*

*

З АЎСТРАЛІІ ПІШУЦЬ: Сыднэй: Дня 28. III. 69. Беларусы Сыднэю ўрачыста сьвяткавалі 51-ыя ўгодкі Акту 25-га Сакавіка. Акадэмію адчыніў цёплым уступным словам Старшыня Белар. Аб'яднаньня ў Новай Паўдз. Валіі Інж. М. Каржанеўскі. Рэфэрат аб гістарычных падзеях у 1917—20 гадах прачытаў Сп. А. Смаль, наступна д-р Я. Малецкі зрабіў даклад аб падзеях у сьвеце і на Бацькаўшчыне. Прысутныя

з асаблівай увагай слухалі даклад аб кітайска-савецкай аружнай сутычцы, бо гэта нябывалае зьявішча, калі два камуністычных сілачы, прэтэндэнты да пяршынства ў сьвеце, схапіліся да бою.

Пасьля старшыня Камітэту па пабудове народнага дому Сп. М. Аўтух расказаў прысутным, якія мае посьпехі і якія перашкоды ў зьбіраньні сродкаў і арган. людзей да гэтае справы. Аказалася, што першым яршом стаў да добрай справы Сп. М. З. (яго ня выбралі на старшыню!): ён упорыста вядзе разьбіўную працу на сваю руку...

Прысутныя злажылі: 42 даляры на газэту «Беларус» (прапанова Сп. У. Бакуновіча, 22 д. на Фонд Белар. Нар. Рэспублікі і 86 д. на Бел. Музэй і Бібліятэку ў Лёндане.

Між іншым Сп. А. Белаўскі заклікаў да купляньня акцыяў Белар. Дому па 500 дал. ад асобы.

Гутаркі, прыказкі і песьні працягнуліся да позна.

Спадарыні М. Лужынская, О. Качан і А. Каржанеўская зручна і ахвярна прылажылі рукі да накрыцьця сталоў і смачнай закускі.

*Я. Л-іч.*

*

...Як гэты час хутка ляціць! Зноў тры месяцы ўцякло, а летам гарачыня — 100 градусаў Фарэнгайта, таму п'ём і п'ём халодныя воды і поцімся. Трэ паліваць і траву і ўсё, што расьце і «мучыцца». У дзень было 105; а ў самаходзе, ў горадзе, да 140 гр.! Самыя гарачыя дні — у Вікторыі было больш за 100 пажараў: згарэла 17 людзей і больш як 200 дамоў. Пад канец такога дня прайшла на дадатак бура, нарабіла вялізнае шкоды. I ў нас зламала адну з самых важных галін прыгожае сасны, а гэта найбольшае дрэва ў нашай вуліцы і цяпер калека... Шмат натрэсла фруктаў, што яшчэ ляжаць на зямлі і марнуюцца.

Але што пісаць аб драбніцы, калі на сьвеце такія важныя справы! I аб В'етнаме, што сварацца за сталом у Парыжу, а людзі гінуць тысячамі, і аб Біяфры, дзе нявінных забіваюць, і аб «пігулках», якія падзялілі каталікоў і аб касьмічных падарожах, што адарвалі чалавека ад зямлі, якая выглядае як зорка...

Прывітаньні ўсім беларусам у Лёндане!

*

МЭЛЬБУРН, 1. IV. 69.

30-га сакавіка адсьвяткавалі 51-ыя Сакавіковыя Ўгодкі. Прайшло спакойна, але людзей ня было зашмат — меней як у мінум годзе. Гэта нядобра! — Цікава, як прайшло сьвяткаваньне ў Вас, у Лёндане? Нашая восень тымчасам памысная але ў Сыднэі ўчора прайшоў улеўны дождж і былі шкоды. Тое прынамсі добра, што ня трэба паліваць у гародзе. — А ў Вас вясна і пэўна зь ёю маеце новыя справы ці абавязкі? Жадаем, каб усё ўдавалася найпрыямней!

*М. Н.*

## ДУМКІ ДЛЯ РАЗВАГІ

Нехта сказаў: «Самая цяжкая праца — не рабіць н і ч о г а». I сапраўды, найгорш мучыць турма, калі не даюць ніякой работы. Аднак веручым людзям Бог скарачвае час, калі моляцца з развагай аб Богу, аб сабе і аб людзях; а пустэльнік сьв. Павал правёў бліска 100 гадоў у пустыні — у пасьце і малітве; а там зусім не маркоціўся.

*

А нехта на зьезьдзе жанчын сказаў: «Ах, жанчынкі! у нас так мала часу, дык гаварыце ў с е р а з а м!»

*

У Чыкаго ў адным магазыне падрахавалі, што жанчыны трацяць, бяручы агулам, на кожную пакупку каля 7-мі мінут, а мужчыны 1-у мінуту. Можа, Дарагія Чытачі, хто з Вас дакажа, што гэта ня так?..

Д о б р а я р а д а: Н е п а з ы ч а й ц е ніколі нічога! Бо пазычаеш чужое, а трэ аддаваць с в а ё. Пазычаеш на час, а трэ аддаваць на заўсёды. Пазычаеш у прыяцеля, а аддаеш (найчасьцей) ворагу. Пазычаецца пасьпешна і з прыемнасьцяй, а аддаецца м а р у д н а і з вялікім сумам, нараканьнем, нават з гневам...

Хто мудры? — Той, хто вучыцца ад кожнага чалавека.

Хто сільны? — Той хто стрымлівае сам сябе.

Хто багаты? — Той, хто здаволены сваім лёсам.

*Талмуд.*

*

Некаторыя зьвяры ўсё разумеюць, хоць ня ўмеюць гаварыць, а некатарыя людзі — наадварот.

*Генэрал дэ Голь.*

# *БАЙКІ*

## БЯСХВОСТЫ

*Жыў-быў сабака, дый ня просты:*
*Прыгожы, гладкі ды — бясхвосты!*
*Сабакам — дзіўна —*
*Пыталі бязупынна:*

*— Ты дзе падзеў хвасьцішча? —*
*Бо й вецер злосна сьвішча...*
*Ці ты такі ўжо нарадзіўся,*
*Ці сам хваста пазбыўся?*

*— А мо' такі ты — задзірака,*
*Што хвост прайграў з сабакам?*
*А мо' з ваўком зайшла прыгода?*
*Ці ты — такая ўжо прырода? —*
*Бясхвосты кажа ім: — О, не!*
*Хваста здаўна няма ў мяне.*
*Дый тут — ніякая «прырода»:*
*Была-ж такая мода... —*

*Цікавы ўсе: — А гэта-ж як? —*
*— А проста так:*
*Даўней, як пан сабачку спадабаў,*
*Дык зара хвосьцік адсякаў... —*

*Сабакі ўсе: — Ах-ах! Гаў-гаў! —*

*Бясхвосты кажа: — Брахні досыць!*
*А вы, хто хвосьцік носіць,*
*Маўчы-ўцякай! Бо я магу адгрызьці...*

*— Было на вусіцы калісьці,*
*Што шпіц мяне як зачапіў,*
*Дык я яго як пакаціў —*
*Адгрыз палоўку вуха!*

*— Падаў мяне у суд, псяюха!*
*А, як судзьдзя ў яго спытаўся,*
*Дык ён са страху сам прызнаўся:*
*«Я — кажа — першы сам кусаўся!...»*
*Судзьдзя: — Аб што-ж табе ідзець? —*
*А шпіц: — Бясхвостых не магу сьцярпець!*

*

*Бываюць людзі — недарэкі:*
*Як трапяць ім калекі —*
*Сляпы, глухі, або заіка,*

*Дык і пачнуць сьмяяцца дзіка —*
*Дражніць ці строіць жарты —*
*Ажно пакуль, як будуць варты,*
*Дастануць аплявуху,*
*Ці па зубах або па вуху!...*

1968.

*

## СЬВІНЬНІ

*Мы бачылі такіх сьвіньней:*
*Яны ўсё елі, спалі —*
*(Ня будзем раўнаваць іх да людзей) —*
*Нічога больш не зналі.*

*Любілі бульбу, цеста й брагу:*
*А да работы —*
*Ані ахвоты,*
*Ані пацягу!...*

*Так, дзень пачаўшы, елі-елі*
*І спалі ад нядзелі да нядзелі, —*
*А елі-ж смачна й ласа,*
*Бо гадаваліся... на мяса!*

*

*Мы тут ня робім параўнаньня —*
*Нагодна толькі меркаваньне,*
*Бо розьніца у тым стаіць —*
*Ня могуць сьвіні лішне піць!*

*

## «КУКУРУЗЬНІК»

*Авечкі раз дзівіліся нямала:*
*— Ах, парсючок, скуль тваё сала?*
*Ці на курорце ад'ядаўся,*
*Ці ў Сінім моры ты купаўся?*
*А мо', ля старшыні хадзіўшы,*
*Заслугу меў, чым дагадзіўшы? —*
*Ты-ж быў худы, як качарга... —*

*Парсюк сьмяяўся: — Га-га-га!*
*Эх, вы, авечкі-бараны,*
*Я-ж не такі, як хто, дурны! —*
*Тут справа — не ў заслузе,*
*А ў кукурузе...*

*

*Хто старшыню злагодзіць,*
*Сам сыты ходзіць.*

1969.

КІТАЙСКІЯ ІЕРОГЛІФЫ: Кажуць, што іх да 100 тысяч — знакоў, літараў. Але напэўна азначаных толькі да 44 тысяч!...

Іх вучацца ўсё жыцьцё і зара яны забываюцца! Хто ведае 3-4 тысячы, ужо так-сяк можа чытаць газэты, але добра чытаць магчыма толькі ведаючы 8-10 тыс.

Як спраўляюцца ў друкарнях наборшчыкі, мы ня можам сабе ўявіць: гэта сапраўды «катаржная работа»!

Для аблягчэньня навукі і працы ў чытаньні і пісьме ўсе іерагліфы групуюцца ў асобныя «ключы» ці гнёзды-клясы: такіх «ключавых» знакоў ёсьць 214. Значыць, для кожнага іерагліфа трэба знайсьці ягоны ключ, а ў ключы знайсьці значэньне самога іерагліфа.

Такім спосабам кітайцы трацяць масу часу, мучаць свае вочы і нэрвы, каб дабіцца добрага выніку. Але ўсё-ж — нават паміма сваей «культурнай» рэвалюцыі — ня могуць разьвітацца з іерогліфамі, бо інačай ня могуць згаварыцца і паразумецца.

Ім лягчэй навучыцца чужой мовы і ў ёй здабываць навуку, чым студыяваць свае літары і кніжкі: так яны найбольш хапаюцца за ангельскую мову. А японцы зусім хацелі закінуць сваю мову ў рэформе імпэратара Мэйджы ў пал. XIX-га стагодзьдзя і перайсьці на ангельскую.

Аднак студыі над іерагліфамі прычыніліся да выпрабленьня ў кітайцаў-японцаў настойлівасьці, вытрываласьці, цярплівасьці, працавітасьці і інш. прыкметаў характеру.

*

ІКАЎКА, або гікаўка (ікота): сутаргавае раздражненьне ў грудзях ці ў жываце або хваравае нэрвовае ўсхліпваньне (спазмы) — вельмі прыкрае для чалавека самога і для прысутных. Часамі трывае цэлымі гадзінамі. Рады даюцца розныя: Затрымаць дыханьне на пару хвілінак, або насыпаць дробачку солі на кончык языка і патрымаць крышку, ці ўзяць папяровы мяшочак і надыхаць у яго, а пасьля ўцягваць гэтае паветра зноў у лёгкія. І яшчэ часам зьнянацку спалохаць такога пацыента... хоць гэтак «лячыць» небасьпечна, асабліва людзей нэрвовых. — Такая ікаўка ў дзяцей здараецца і ад холаду, тады трэба абтуліць і абагрэць дзіцятка, дык спазмы пройдуць.

---

# Паважаныя Спадары і Спадарыні!

Будзьце ласкавы і пасьвяціце хвілінку часу, каб лепш пазнаёміцца са зьместам гэтага ліста.

Ад некалькіх гадоў выходзіць у сьвет — у складаных умовах эміграцыі — часапіс рэлігійна-грамадзкага зьместу — «БОЖЫМ ШЛЯХАМ». Мэта яго ўсім ведамая:

Навязаць цясьнейшую лучнасьць з Хрыстом і Ягонай навукай;

Пазнаваць беларускую гісторыю і культуру;

Інфармаваць аб сучасных падзеях;

Служыць ідэі еднасьці сярод хрысьціян...

«БОЖЫМ ШЛЯХАМ» — наш часапіс — ад самага пачатку свайго заснаваньня імкнуўся здаволіць духовыя патрэбы ўсіх беларусаў — бяз розьніцы веравызнаньня і партыйных палітычных плыняў. Паколькі гэта нам удавалася, няхай судзяць самі Паважаныя Чытачы.

Сяньня мы зьвертаемся да Вас, Дарагія Суродзічы, з прозьбай, каб былі ласкавы і далей помніць аб нашым часапісе. Нам вельмі патрэбна вашая матэр'яльная падмога, а што яшчэ важнейшае — вашае супрацоўніцтва. Пішыце да нас аб сваім жыцьці, занятках, патрэбах і аб сваіх досьледах у розных галінах навукі.

Дагэтуль мы атрымлівалі нямала карэспандэнцыі і часткова з яе карысталі. Але чаму маўчаць беларусы Нова-Зэляндыі, Паўдзённай і Сярэднай Амэрыкі? Чаму так мала галасоў даходзіць да нас з Аўстраліі, дзе ёсьць каля 2.000 беларускіх сем'яў, а ў тым нямала інтэлігенцыі?

Не дай Бог, — але гэтая абыякавасьць да роднае мовы, да нашае прэсы, да беларускіх арганізацыяў, — ці ня ёсьць гэта пачатак той сумнай зьявы, якой імя — «сама — ліквідацыя»?!

З надзеяй, што Вы нас належна зразумееце, будзем Вам высылаць наш сьціплы часапіс, але ад Вас будзем чакаць рэгулярнай падпіскі, матар'ялаў да друку, сяброўскага слова і маральнай падтрымкі.

*З глыбокай пашанай*
*Рэдакцыя і Адміністрацыя*
*«БОЖЫМ ШЛЯХАМ»*

# ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

## ЛЕКЦЫЯ ДЛЯ ЛЕКТАРАЎ-БЯЗБОЖНІКАЎ

Старшыня: — Я прачытаў вам лекцыю і прашу ставіць пытаньні.

Малодшы лектар: — А што рабіць, калі на маей лекцыі слухачы будуць драмаць ці спаць?

Старшыня: — Ну, трэба так чытаць, каб не спалі! — чытаць цікава, энэргічна, або і прыкрыкнуць.

II-гі лектар: — А бывае, што і гэта не памагае... То можа тады перарваць лекцыю?

Старшыня: — О, не! перарываць нельга, бо пасьля ўжо заўсёды слухачы будуць спаць. — Але вы мне давайце цікавейшыя пытаньні, бо зара і вы самі тут пачнеце спаць.

Аднак больш пытаньняў ня было і самі лектары пачалі пазяваць — аж і з тым разыйшліся... Сапраўды, нудны бывае атэізм: часамі, як сонны парашок, а часам як рыцына.

## ПРАПАГАНДА

На Зьезьдзе раённых сакратароў міністр прапаганды аб'явіў, што прышоў таёмны загад з Масквы, каб у Беларусі — ў чэсьць 50-ці годзьдзя рэвалюцыі — зачыніць палавіну сьвятыняў. Але сакратар аднаго раёну спытаўся: — Як-жа мне зачыніць палавіну сьвятыняў, калі ў маім раёне ўсяго 3 праваслаўныя цэрквы, адзін каталіцкі касьцёл і адна жыдоўская сынагога?

Міністр: — Ну, рабі, як хочаш, але загад Масквы мусіць быць выкананы! Помні, што ніякай адмовы быць ня можа...

Сакратар: — Але-ж увайдзіце ў маё палажэньне! Я-ж не магу зачыніць паўкасьцёла і паўсынагогі...

Іншы Сакратар: — Чудак ты! я табе параджу: у адну нядзелю касьцёл хай будзе адчынены, а ў другую — зачынены...

І-ы Сакратар: — Дзякую! хіба-ж так зраблю?...

## ПРЫСЯГА

Сабраліся дзьве Тройкі — Маскоўская і Пякельная: Брэжнёў-Падгорны-Касыгін і Люцыпар-Бэльзэбуб-Мэфістофаль. Спачатку Масква ў пекла ня верыла, але Люцыпар казаў: — Вы сабе ня верце, але раз мяне бачыце, дык можам разам дагаварыцца! Нашыя інтарэсы супольныя і мы павінны адны другім памагаць. Дык зрабілі I-ю супольную раду.

Люцыпар: — Маркс з вамі!

Брэжнёў: — І з ліхам тваім!

Люцыпар: — Мы з Брэжнёвым дагаварыліся, каб прынесьці прысягу на вернасьць у супрацы, — дык перш вы чытайце свой тэкст, а пасьля мы прачытаем свой і прысягнем.

Брэжнёў: — Бяры, таварыш Касыгін, і чытай!

Касыгін (чытае): — Мы, Маскоўская Тройка, прысягаем, што будзем праводзіць тактыку Івана Грознага, навуку Маркса, філязофію Энгельса, атэізм Леніна, тэрор і лгарства Сталіна і хуліганства Хрушчова; а нават усіх іх пастаремся перавысіць, паводле пякельнай праграмы. —

Люцыпар: — А ты, мой памацнік, Мэфістофаль, чытай нашую праўду!

Мэфістофаль (чытае): — Мы, Пякельная Тройка, прысягаем памагаць вашай Тройцэ ў дыктатуры, ў багацьці і ў кожным ліху, якога вы зажадаеце! —

Люцыпар: — Найперш прысягайце вы!

Касыгін: — Я дамагаюся выкінуць з тэксту Хрушчова, бо ён яшчэ жыве і ліха ведае, што яшчэ можа выдумаць.

Брэжнёў: — Ты ня можаш дамагацца: гэта будзе контр-рэвалюцыя!

Падгорны: — Нічога, можна і выкінуць — дзеля нашае згоды.

Бэльзэбуб: — Давайце перагаласуем!

Усе паднялі рукі: перайшоў праект аднагалосна, Хрушчова выкінулі з тэксту.

Падгорны: — А на які аб'ект будзем прысягаць?

Люцыпар: — Вы будзеце прысягаць на «Капітал» Маркса, а мы — на Кадэкс Пякельных Законаў.

Усе: — Добра! згода...

Паднялі левыя рукі і ўрачыста прысягнулі. Пасьля крычалі — Ура-а-а! — і моцна цалаваліся дый так абыймаліся, што ў Маскоўскай Тройкі некалькі дзён балелі косьці.

## ЗЬМЕСТ



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14